www.nv-online.info

№ 55 (4000)

17 ліпеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ДЫПКУР’ЕР

## Новай кіраўніцай прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Мінску стане нямецкі дыпламат Андрэа Віктарын



Пра гэта парталу tut.by сказала цяперашняя кіраўніца еўрапейскай місіі Майра Мора. Яна паведаміла, што яе чатырохгадовы тэрмін службы ў Беларусі падыходзіць да канца сёлета 31 жніўня.

Паводле слоў Майры Моры, згоду на прызначэнне спадарыні Віктарын беларускі бок ужо даў.

Цяпер Андрэа Віктарын з’яўляецца паслом Германіі ў Латвіі. У Беларусі яна працавала ў 2000–2003 гадах у амбасадзе Германіі дарадцам.

Андрэа Віктарын нарадзілася ў Боне ў 1957 годзе. На дыпламатычнай службе ў МЗС – з 1989 года. Працавала ў нямецкіх амбасадах у Эстоніі, Нідэрландах, Арменіі.

ХТО ЁСЦЬ ХТО

## Гайдукевіч нахвальваў Лукашэнку, Караткевіч карміла баршчом

Старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч, які адным з першых аднёс дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы па вылучэнні сваёй асобы кандыдатам у прэзідэнты, здзівіў журналістаў лёкайскай заявай: *“Я папрасіў бы апанентаў падзякаваць Аляксандру Лукашэнку за тое, што мы сёння маем моцную і суверэнную дзяржаву”.*

Хаця мала хто сумняваўся, што і на гэтых выбарах (як і на мінулых) ён будзе спарынг-партнёрам дзеючага прэзідэнта. Кампанія не пачалася, а ён ужо нахвальвае Лукашэнку... Спраўна выконвае ролю, якая яму адведзена.



Таццяна Караткевіч перад тым, як аднесці дакументы ў Цэнтрвыбаркам, частавала журналістаў баршчом, звараным па ўласным рэцэпце. Праўда, па логіцы, карміць трэба было не толькі прадстаўнікоў СМІ, але і кіраўніцу ЦВК Лідзію Ярмошыну, бо гэта яна раіла ўсім жанчынам варыць баршчы і не займацца палітыкай.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ДАСЛОЎНА

## *Майра МОРА:* Беларусы – еўрапейская нацыя. Якой яшчэ яна можа быць?



Латвійскі дыпламат Майра Мора, якая апошнія гады ўзначальвала прадстаўніцтва Еўрапейскага Саюза ў Мінску, ужо раздае апошнія інтэрв’ю на гэтай пасадзе. Пытанне, якое найбольш здзіўляе яе: “Беларусы – еўрапейская нацыя?”.

Вось яе адказ:

*“Безумоўна! У Беларусі вельмі багатая і доўгая еўрапейская гісторыя. Беларусь – частка еўрапейскай гісторыі. Тэрытарыяльна, па гістарычных падзеях, па дзяржаўных фарміраваннях у мінулым. Маёй Латвіі Рэнесанс не дасягнуў, а Беларусі дасягнуў. Тое ж еўрапейскае рыцарства ў Беларусі. Навошта наогул гэтае пытанне: ці еўрапейская нацыя беларусы? Якой яшчэ яна можа быць?”*

ЧУЛІ?

## Падкоп пад Беларускую АЭС

ЕС вырашыў разарваць энергетычную сувязь краін Балтыі з Беларуссю і Расіяй

Латвія, Літва і Эстонія разлічваюць выйсці з адзінай энергасістэмы з Беларуссю і Расіяй. Яна так і называлася – БРЭЛЛ, па першых літарах назваў дзяржаў. Але падобна на тое, што цяпер у ёй застануцца толькі Беларусь і Расія.

Першай мае намер сысці Літва з дапамогай літоўска-польскага энергапраекта. А гэта азначае, што разлікі беларускага боку на тое, што электраэнергію з будучай АЭС у Астраўцы мы будзем прадаваць на экспарт, фактычна перакрэслены.



Усяго Еўрасаюз вырашыў аказаць фінансавую падтрымку 20 праектам, мэта якіх – павысіць энергетычную бяспеку Еўрасаюза. Будаўніцтва новых электрычных і газавых камунікацый запланавана ў Чэхіі, Балгарыі, Польшчы і Літве.

Для Літвы рашэнне ЕС мае асаблівую важнасць – яно дазволіць паскорыць запуск амбіцыйнага праекта па стварэнні польска-літоўскага электразлучэння LitPol Link. З яго дапамогай Літва разлічвае выйсці з пакінутай з часоў СССР сістэмы БРЭЛЛ і ўключыцца ў інфраструктуру электрасетак кантынентальнай Еўропы.

Агульны кошт LitPol Link складае 370 мільёнаў еўра. Мяркуецца, што новая лінія пачне дзейнічаць ужо ў канцы снежня 2015 года.

Дык што мы будзем рабіць з электраэнергіяй ад будучай АЭС? Есці?..

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ПУЛЬС

## Амерыканцы гатовы вярнуць у Мінск пасла пры адной умове

Злучаныя Штаты Амерыкі гатовы вярнуць у Мінск свайго пасла, але толькі пры ўмове зняцця беларускім бокам уведзеных яшчэ ў 2008 годзе абмежаванняў на колькасць дыпламатаў, якія працуюць пры пасольстве.

Пра гэта заявіў Паверany ў Справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь **Скот Роланд**. *«Спадзяюся, мы зможам аднавіць штат амбасады на ўзроўні 2008 года, калі працавалі 35 грамадзян ЗША»,* – адзначыў ён.

Нагадаем, што пасля ўвядзення Злучанымі Штатамі санкцый у дачыненні да шэрагу прадпрыемстваў канцэрна “Белнафтахім” беларускі бок запатрабаваў скараціць колькасць грамадзян ЗША, якія працуюць у амбасадзе, з 35 да 5 чалавек.

## Затармазілі

Продаж грузавых аўтамабіляў МАЗ на расійскім рынку ў першай палове года скараціўся больш як у два разы ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам. Такія дадзеныя прыводзіць расійскае аналітычнае агенцтва “Аўтастат”.

Асноўнымі канкурэнтамі беларусаў на расійскім рынку выступаюць КАМАЗ і ГАЗ. Сітуацыя на беларускіх машынабудаўнічых прадпрыемствах разглядалася ў чэрвені на нарадзе з удзелам Аляксандра Лукашэнкі. У хуткім часе пасля нарады Лукашэнка падпісаў указы, згодна з якімі беларускія машынабудаўнічыя прадпрыемствы займелі магчымасць атрымаць новыя запазычанні. Але сітуацыю гэта не выпраўляе, а толькі кансервуе.

## Віншуем!

У маладафронтаўцаў **Міколы Дземідзенкі** і **Алесі Раманюк** нарадзілася дачушка.

Нагадаем, што ў гэтай сям’і ўжо гадуецца сынок Міхась. Так што ўсё больш сур’ёзным становіцца маладое пакаленне беларускай апазіцыі, сталее, дзецьмі абжываецца!

І гэта вельмі цешыць, бо шчырых беларусаў павінна быць як мага болей!

## На мяжы неспакойна

У іншы сезон гэта можна было б назваць надзвычайнай сітуацыяй, сенсацыяй, скандалам. Толькі за адны суткі дзяржаўную мяжу паміж Беларуссю і Украінай парушылі 19 чалавек!

Але на двары лета. Людзі проста збіралі ягады і заблукалі.

Затрыманых жыхароў Жытомірскай, Валынскай, Ровенскай і Чарнігаўскай абласцей беларускія ахоўнікі мяжы перадалі сваім калегам з Дзяржаўнай памежнай службы Украіны.

Дарэчы, летась і ў папярэднія гады Аляксандр Лукашэнка дазваляў украінскім грамадзянам з памежных вёсак з 1 ліпеня да 10 жніўня і з 30 верасня да 15 лістапада пераходзіць беларуска-ўкраінскую мяжу ў спрошчаным парадку, каб збіраць на беларускай тэрыторыі ягады і грыбы.

## 605 гадоў таму адбылася Грунвальдская бітва

Дзякуючы перамозе пад Грунвальдам была спынена нямецкая экспансія на балтыйскія і ўсходнеславянскія землі.

Грунвальдская бітва – адна з найбуйнейшых бітваў сярэднявечча. У Польшчы ўрачыстасці з удзелам некалькіх тысяч рыцараў пачаліся яшчэ ў суботу. У Беларусі падзея ўвогуле не адзначалася.

НАДВОР’Е

## У суботу да + 33°C

Надвор’е пайшло на паляпшэнне, і мы зноў адчуем, што на двары лета.



17 ліпеня ўначы месцамі, удзень на большай частцы Беларусі пройдуць кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы. Тэмпература паветра ўначы +7...+14°C, удзень +18...+25°C, па паўднёвым захадзе да + 27°C.

18 ліпеня большая частка краіны патрапіць у поле павышанага атмасфернага ціску, днём да заходніх межаў Беларусі перамесціцца атмасферны фронт. Пераважна без ападкаў, толькі ўдзень у заходніх раёнах кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы.

Тэмпература паветра ўначы +7...+14°C; днём +21...+28°C, па паўднёвым захадзе +29...+ 31°C, месцамі паветра прагрэецца да +33°C.

ПАЗІЦЫЯ

## Някляеў зноў заклікаў апазіцыянераў зняцца з выбараў

Лідар ствараемага руху «За дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі» паэт **Уладзімір Някляеў** мяркуе, што адзіная правільная стратэгія на прэзідэнцкіх выбарах для кандыдатаў ад апазіцыі – адмовіцца ад удзелу ў кампаніі і падтрымаць вылучэнне палітвязня Мікалая Статкевіча. Пра гэта палітык заявіў на «круглым стале» «Байкот ці ўдзел?», арганізаваным Аб’яднанай грамадзянскай партыяй.

*«Удзел апазіцыі ў выбарах у тым фармаце, які прапанаваны ўладай, шкодны для будучыні краіны, гэта вядзе да кансервацыі рэжыму»,* – мяркуе Някляеў. На яго думку, гэта адбудзецца незалежна ад таго, што кандыдаты паспеюць данесці да выбаршчыкаў. *«Трэба было браць удзел у выбарах, але з тым, чаго мы не дабіліся, – з адзіным кандыдатам і адзінай праграмай»,* – зазначыў палітык.

Паводле слоў Някляева, ніхто з прадстаўнікоў палітычных партый не паспрабаваў прааналізаваць, як удзел або няўдзел апазіцыі ў выбарах 2015 года паўплывае на ўмацаванне або аслабленне беларускай дзяржаўнасці. *«Найбольшая небяспека для краіны сёння – страта незалежнасці. Няма аналізу па асноўнай праблеме, якая пасля падзей ва Украіне проста стала відавочнай»,* – заявіў Някляеў.

Палітык таксама зазначыў, што ў няздольнасці апазіцыі дамовіцца аб вылучэнні адзінага кандыдата *«персанальныя адносіны спрацавалі мацней, чым усё астатняе».*

29 чэрвеня Някляеў упершыню выступіў з заклікам да патэнцыяльных кандыдатаў у прэзідэнты зняцца з выбараў да пачатку рэгістрацыі ініцыятыўных груп і падтрымаць вылучэнне адзіным кандыдатам ад апазіцыі палітвязня Мікалая Статкевіча. Аднак гэта прапанова экс-кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года дагэтуль не знайшла падтрымкі.

ТЫМ ЧАСАМ

У ініцыятыўную групу па вылучэнні Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты ўвайшло больш за 1500 чалавек. Гэта не толькі палітыкі, але і многія вядомыя беларусы: Зінаіда Бандарэнка, Павел Севярынец, Аляксей Марачкін, Уладзімір Халіп, Мікалай Аўтуховіч, Рыгор Кастусёў, Славамір Адамовіч, Лявон Вольскі, Аляксандр Тамковіч, Вячаслаў Сіўчык, Сяргей Законнікаў, Юрый Хашчавацкі, Зміцер Дашкевіч, Вольга Завадская і іншыя.

Дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы Міколы Статкевіча былі пададзены ў Цэнтрвыбаркам учора. Але, нагадаем, што па беларускім заканадаўстве асуджаны чалавек не можа балатавацца ў прэзідэнты. Такім чынам, гэтую кампанію трэба разглядаць як кампанію салідарнасці з палітвязнем, кандыдатам у прэзідэнты на мінулых выбарах, які застаецца за кратамі.

ПАЛІТКУХНЯ

## Баранавіцкага актывіста не захацелі браць у каманду Лукашэнкі

*Грамадскі актывіст з Баранавічаў **Мікалай Чарнавус** напісаў заяву аб уключэнні яго ў склад ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за Аляксандра Лукашэнку.*

Заяву спадар Чарнавус перадаў супрацоўніцы агульнага аддзела Баранавіцкага гарвыканкама. Пазней патлумачыў: *“Я пазначыў, што добра ведаю выбарчы закон і маю вялікі асабісты вопыт збору подпісаў не толькі падчас выбараў, але і пры правядзенні розных грамадскіх ініцыятыў і кампаній. Таксама пацвердзіў у сваім лісце, што калі стану сябрам ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за Аляксандра Лукашэнку, то ў мяне не будзе ніводнага недакладнага подпісу выбаршчыкаў, нават пагадзіўся ўзначаліць у Баранавічах прэзідэнцкую ініцыятыўную групу. У заяве я цвёрда паабяцаў сабраць найбольшую колькасць подпісаў па Брэсцкай вобласці за дзеючага прэзідэнта і не дапусціць ніводнага недакладнага подпісу выбаршчыкаў”.*

Пасля гэтага актывіст атрымаў на свой ліст адказ, у якім сказана, што гарвыканкам фарміраваннем ініцыятыўных груп не займаецца.

Адказам гарвыканкама Мікалай Чарнавус быў незадаволены, а таму такую ж заяву даслаў і ў Адміністрацыю прэзідэнта. Зрэшты, ініцыятыўная група Аляксандра Лукашэнкі ўжо зарэгістравана, баранавіцкага актывіста чамусьці не захацелі браць у каманду кіраўніка краіны. Дарэчы, Мікалай Чарнавус абяцаў сабраць некалькі тысяч подпісаў...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ФОТАФАКТ





## Пад пільным наглядам

Патэнцыяльныя кандыдаты ў прэзідэнты пайшлі ў народ. Старшыня АГП **Анатоль Лябедзька**, напрыклад, накіраваўся да прахадной Мінскага аўтамабільнага завода. Усё, што адбывалася, запісваў на камеру чалавек са спецслужбаў.

Перш за ўсё палітык хоча пазнаёміць людзей з праграмай АГП “Мільён новых працоўных месцаў” – менавіта ёй і прысвечаны ўлёткі, якія раздаваў старшыня АГП. Але, па сутнасці, гэта праграма стане выбарчай праграмай кандыдата ў прэзідэнты, калі Лябедзька будзе ў такім статусе зарэгістраваны.

АФІЦЫЙНА

## У метро – нельга, у бальніцах – можна

У Мінску вызначаны месцы, забароненыя для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Гэта рашэнне Мінгарвыканкама ўступае ў сілу з 23 ліпеня і дзейнічае да 21 жніўня 2015 года ўключна, паведамілі ў прэс-службе.

Пікетаванне забаронена на аб’ектах метрапалітэна, чыгуначнага і паветранага транспарту, у падземных пешаходных пераходах; на тэрыторыі Кастрычніцкай плошчы, плошчы Незалежнасці, плошчы Перамогі, плошчы Дзяржаўнага сцяга, Прывакзальнай плошчы, плошчы Якуба Коласа; на адлегласці менш як 200 м ад будынкаў рэзідэнцый прэзідэнта, Нацыянальнага сходу, Савета міністраў; на адлегласці менш як 50 м ад будынкаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў, судоў, органаў пракуратуры, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць і бяспеку дзяржавы.

Устаноўлена, што пікетаванне з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў можа праводзіцца з 8.00 да 22.00.

РЭБУС

## Ці чытаў Лазавік Канвенцыю?

Сёлетняя прэзідэнцкая кампанія – першая, падчас якой трапілі пад забарону заклікі да байкоту. Больш за тое, у беларускае заканадаўства ўнесены змены, згодна з якімі за такія заклікі прадугледжана пакаранне штрафамі. Але сітуацыя не такая простая. Бо здарыўся сур’ёзны юрыдычны казус.

Забарона на заклікі да байкоту выбараў з’явілася зусім нядаўна, калі ў лістападзе 2013 года ў беларускі Выбарчы кодэкс (артыкул 47) былі ўнесены змены. Згодна з імі аказаліся забаронены “заклікі, якія падахвочваюць або якія маюць сваёй мэтай падахвочванне да зрыву, або адмены, або пераносу тэрміну выбараў, рэферэндуму, прызначаных у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь”. Іншымі словамі, была ўведзена забарона на заклікі да байкоту выбараў.

Аднак у студзені 2014 года Беларусь афіцыйна далучылася да Канвенцыі аб стандартах дэмакратычных выбараў СНД. Пункт 8 артыкула 9 гэтага міжнароднага дакумента гучыць так:



*“Асобы і органы, чыя дзейнасць накіравана на фальсіфікацыю падліку галасоў, вынікаў галасавання і вынікаў выбараў, на перашкоду свабоднаму ажыццяўленню грамадзянінам яго выбарчых правоў і свабод, у тым ліку ў форме байкоту ці заклікаў да байкоту выбараў, адмовы ад выканання выбарчых працэдур або выбарчых дзеянняў, павінны праследавацца па законе”.*

Іншымі словамі, з Канвенцыі вынікае, што не тыя, хто заклікае да байкоту, падлягаюць пакаранню, а, наадварот, тыя, хто такія заклікі забараняе.

Але... ці ведае пра гэта сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік?..

На гэтым тыдні, сустракаючыся з прадстаўнікамі місіі АБСЕ, сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік нагадаў, што Беларусь далучылася да Канвенцыі аб стандартах дэмакратычных выбараў СНД і заявіў: *«У адпаведнасці з гэтай канвенцыяй байкот забаронены. Прычым гэтая забарона распаўсюджваецца не толькі на выступленні кандыдатаў, але і на ўсіх грамадзян краіны. То бок калі дзяржава выдаткоўвае аграмадныя сродкі на арганізацыю і падрыхтоўку выбараў, то грамадзянам забаронена весці агітацыю за зрыў гэтага важнейшага мерапрыемства”.*

У гэтай сувязі самі сабой узнікаюць пытанні:

– Ці чытаў Мікалай Лазавік Канвенцыю?

– Ці дзейнічае яшчэ артыкул 8 беларускай Канстытуцыі, якім прызнаецца прыярытэт міжнародных дамоў і неабходнасць прывядзення нацыянальнага законадаўства ў адпаведнасць з імі?

– Ці законныя забарона на заклікі да байкоту выбараў і пакаранне за такія заклікі?

– Чаму спіць у шапку Канстытуцыйны суд?

**Алена НОВІКАВА.**

В ЗЕРКАЛЕ СОЦИОЛОГИИ

## На Западе живут лучше, но интегрироваться будем с Россией?

В июне 2015 г. сотрудниками Независимого института социально-политических исследований, зарегистрированного в Вильнюсе, проведен национальный опрос общественного мнения (методом face-to-face interview опрошено 1513 респондентов 18 лет и старше, предельная ошибка репрезентативности не превышает 0,03). Предлагаем вам комментарии к наиболее интересным и важным результатам.

За год представления белорусов о том, где люди живут хуже – в Беларуси или на Западе, практически не изменились (табл.1). И это в условиях падения доходов населения за январь–май 2015 г. к аналогичному периоду прошлого года на 4,2%, а также при средней заработной плате за май, эквивалентной 470 долларам! Таким образом, перед нами еще один пример «аномалии-2015».

**Таблица 1. Динамика ответов на вопрос «Считаете ли вы, что в Беларуси люди живут хуже, чем в странах Запада?», %**

| Вариант ответа | 06’14 | 06’15 | Отношение к А.Лукашенко | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Доверяют | Не доверяют |
| Да | 59,7 | 60,0 | 40,9 | 83,8 |
| Нет | 31,2 | 30,8 | 47,8 | 11,0 |
| ЗО | 9,2 | 9,2 | 11,3 | 5,2 |

Вполне естественно, что ответы на вопрос о сравнении уровня жизни населения в Беларуси и на Западе оказались политизированными. В частности, доля несогласных среди сторонников А.Лукашенко («коэффициент раскола») оказалась в 4,3 раза выше, чем среди его противников.

Следует отметить, что ответы респондентов слабо зависят от частоты просмотра российских новостных телепрограмм. Среди регулярных телезрителей негативный ответ выбрало 35,7%, а среди тех, кто их не смотрит, – 33,1%. Однако картина резко меняется, если перейти от частоты просмотра к оценке объективности изложения событий российскими новостными телепрограммами: «совершенно объективно» – 54,6%, «совершенно необъективно» – 15,2%. «Коэффициент раскола» при этом составил 3,6.

**Таблица 2. Распределение ответов на вопрос «Если «да», то почему, на ваш взгляд, люди в Беларуси живут хуже?» в зависимости от отношения к А.Лукашенко, %** *(возможно более одного ответа)*

| Вариант ответа | Все опрошенные | Отношение к А.Лукашенко | |
|---|---|---|---|
| | | Доверяют | Не доверяют |
| Наш народ может работать не хуже, чем в странах Запада, но виновато плохое государственное управление | 34,7 | 14,0 | 61,0 |
| У нас нет сырьевых ресурсов | 19,2 | 20,0 | 16,9 |
| Наш народ в целом менее трудолюбив, чем люди, живущие на Западе | 9,4 | 9,2 | 7,6 |
| Нам постоянно мешают внутренние и внешние враги | 8,5 | 6,6 | 11,1 |
| Другое | 3,9 | 3,8 | 3,2 |

Отмеченные зависимости свидетельствуют об ограниченном влиянии пропаганды. Она влияет лишь на тех, кто изначально готов ее воспринимать.

Основная причина, по которой большинство белорусов считает, что они живут хуже, чем на Западе, – плохое государственное управление (табл.2). С этим согласны 34,7%. Естественно, основной вклад в пользу данной версии внесли противники А.Лукашенко – 61% против 14%. На втором месте в списке причин – отсутствие сырьевых ресурсов. С данным объяснением примерно в равной степени согласны сторонники и противники главы государства.

Самокритика («Наш народ в целом менее трудолюбив, чем люди, живущие на Западе») не является сильной стороной белорусов. Но, к их чести, они не склонны списывать свои материальные проблемы на внешний фактор. При этом уровень ксенофобии среди противников А.Лукашенко оказался выше, чем среди его сторонников – 11% против 6,6%. Что выглядит довольно неожиданно.

Еще российский социолог Ю.Левада в статье «Человек ограниченный: потолки притязания» отмечал ошибочность допущения ненасытности желаний человека: «Реальная ситуация, в частности, доступная нам в исследованиях, выглядит иначе. Чаще всего человек «ищет» (или стремится сохранить) ситуацию, которая представляется ему относительно удобной, привычной, спокойной, менее рискованной, соответствующей некоторому заранее заданному образцу. При этом для каждой стабильной социальной группы имеется свой уровень притязаний на социальные и экономические блага, статус и ресурсы, соотносимый с уровнем допустимых «рисков» (фигурально выражаясь, ценность и затраты «синицы в руке» сопоставляются с ценностью и затратами «журавля в небе»)».

Белорусы в этом смысле не являются исключением. Поэтому не стоит удивляться, что, соглашаясь с более высоким уровнем жизни на Западе, интегрироваться они предпочитают с Россией.

**www.iiseps.org**

Народная Воля http://www.nv-online.info 17 ЛІПЕНЯ 2015 г.

ПРАБЛЕМА!

# Платная бясплатная медыцына

***Бацькі непаўналетніх жыхароў Сеніцы Мінскага раёна не могуць скарыстацца паслугамі гарантаванай Канстытуцыяй бясплатнай медыцыны для сваіх дзяцей. Яны патэлефанавалі ў рэдакцыю і папрасілі журналістаў агучыць праблему.***




Справа ў тым, што ў мясцовай паліклініцы вузкіх спецыялістаў зусім няма. Яны працуюць толькі ў цэнтральнай паліклініцы, якая знаходзіцца ў Бараўлянах – на супрацьлеглым баку Мінска. Паўстае выбар: ехаць з дзіцём за некалькі дзясяткаў кіламетраў у Бараўляны ці скарыстацца паслугамі платных урачэбных кабінетаў у самой Сеніцы.

"Народная Воля" наведала сям'ю шматдзетнай маці **Таццяны КАЛГІНОЙ,** што жыве ў шматпавярхоўку ў самым цэнтры пасёлка. Цяпер, у час летніх канікул, самая вялікая праблема ў сям'і – медыцынскія даведкі ў лагер. Нават за простай паперкай у чарзе трэба правесці паўдня.

Таццяна паказвае сваё ліставанне з чыноўнікамі. Адказы прыкладна аднолькавыя: паліклініка ўкамплектавана згодна з адпаведнымі нормамі. Таццяна кажа:

– *Нягледзячы на тое, што нам гарантавана бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, мы ўсё роўна плацім за лячэнне. Я, як і ўсе іншыя бацькі, плачу і за дзяцей, і за сябе ў платных кабінетах. Я не супраць таго, што трэба плаціць, але навошта тады ў нас пад носам паліклініка, дзе ўсё павінна быць? Мы ўсё роўна вымушаны шукаць недзе спецыялістаў. Нічога не скажу, у нас тут добрыя спецыялісты-педыятры на прыёме, яны ніколі не адмаўляюцца паглядзець дзіця. Але да іх заўсёды такія вялізныя чэргі! Людзі сядзяць у калідоры з дзецьмі па тры-чатыры гадзіны. Гэта ж ненармальна! А вось вузкіх спецыялістаў няма. Хаця дамы ў нас тут растуць што грыбы. Шмат маладых сем'яў з дзецьмі. А для дзяцей у старой паліклініцы адвялі крыло на першым паверсе. І ўсё. Адным словам, праблему трэба неяк вырашаць.*

...Паліклініка месціцца насупраць школы. Вельмі прыгожы палісаднік – дагледжаныя клумбы, дрэвы. А вось унутры... Каб зразумець, у якім матэрыяльным стане знаходзіцца гэтая ўстанова, дастаткова ўбачыць старую мэблю, якая захавалася тут яшчэ з савецкіх часоў, разламаны кран, з якога ўжо некалькі сутак цячэ вада, смярдзючыя прыбіральні ды абадраныя лаўкі для наведвальнікаў у калідоры. Карціна сумная. Нягледзячы на тое, што ўжо ледзь не 40 хвілін, як, згодна з раскладам, скончыўся прыём, у калідоры застаецца чарга. Адзін хлопчык гадоў пяці хныча: "Мама, пайшлі. Не трэба мне ніякай даведкі. Я не хачу ў садок. Я лепш буду дома адзін, толькі не ў садок". На ўсё гэта паблажліва паглядае хлопец гадоў адзінаццаці. Разгаварыліся з ім. Хлопчык назваўся Антонам. Сказаў, што ў палове дзясятай раніцы заняў чаргу, бо яму патрэбна медыцынская даведка ў лагер "Палачанка". Яго агледзелі даволі хутка, хлопец выйшаў у калідор чакаць, пакуль медсястра выпіша яму тую самую даведку. Чакаў больш за дзве з паловай гадзіны. Не так і шмат па мясцовых мерках.

На прыёме доктар **Анастасія ШЧАЛЧОК.** Запытваю: чаму такія чэргі нават летам, калі звычайна ў паліклініках народу няшмат?

– *У Сеніцы хутка будуюцца шматпавярхоўкі,* – расказвае ўрач. – *Людзі засяляюцца ў дамы, але застаюцца прапісанымі ў Мінску. Атрымліваецца, што пры норме 800 дзяцей на аднаго педыятра ўсё адпавядае заканадаўству. Аднак на практыцы медыкам даводзіцца абслугоўваць значна большую колькасць пацыентаў, часам – да трох тысяч чалавек. Вузкіх спецыялістаў няма, бо нехта ў дэкрэце, нехта сышоў, адпрацаваўшы тут 20 гадоў. А хто са спецыялістаў захоча прыязджаць сюды дзень-два ў тыдзень і абслугоўваць увесь раён? Ды яшчэ выслухваць тут скандалы. Таму такая сітуацыя.*

Дарэчы, з няхітрай мэблі ў кабінеце доктара – два старыя сталы, такая ж старая шафа з перакошанымі дзверцамі і маленькі стэлаж. Гэты стэлаж і ёсць рэгістратура. *"А што рабіць? Няма ніякага іншага месца ў паліклініцы. Бывае, што вядзеш прыём, а нехта заходзіць і пачынае патрабаваць медыцынскую картку. Усё ў адным гэтым пакойчыку"*, – патлумачыла доктар.

Аб'явы ў калідоры даюць пералік тых самых "бясплатных" спецыялістаў, якія так неабходны маленькім пацыентам. Але ўсе яны сапраўды знаходзяцца ў Бараўлянах. Ёсць яшчэ аб'явы аб працы платных урачэбных кабінетаў – неўролагаў, афтальмолагаў, оталарынголагаў ды іншых. Зразумела, што такога спецыяліста дазволіць сабе можа не кожны. Але прыходзіцца, бо выйсця няма.

На першы погляд сітуацыя тупіковая. Але яе можна лёгка вырашыць, калі мясцовыя ўлады стануць улічваць сапраўдную, а не фармальную колькасць жыхароў Сеніцы. Толькі ці гатовы чыноўнікі яе вырашаць?

**Любоў ЛУНЁВА.**

ИЗ ПИСЬМА

## Мне повезло?

**Говорят, что разрешили приватизировать "чернобыльское" жилье? Если так, то я воспользуюсь этим...**

**Казимир ОРЛОВ.**

Так, белорусы могут до 1 июля 2016 года приватизировать "чернобыльское" жилье.

Такое решение предусмотрено президентским указом №315.

*«Документ предоставляет гражданам право до 1 июля 2016 года обратиться за приватизацией занимаемых ими жилых помещений, построенных за счет средств, выделенных на ликвидацию последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС»,* – отмечает пресс-служба.

Согласно документу, приватизировать жилые помещения граждане будут на возмездной основе в соответствии с законодательными актами, которые регулируют вопросы приватизации. При этом у граждан и членов их семей не должно быть в собственности жилых помещений (долей в праве собственности на жилые помещения) в населенном пункте, где приобретается жилье. Еще одно условие для приватизации – неполучение государственной поддержки на строительство (реконструкцию) или приобретение жилых помещений в виде льготного кредита и (или) одноразовой субсидии.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Цэркарыёз і возера Нарач

***Збіраюся з'ездзіць на беларускую блакітную жамчужыну – возера Нарач. Але ці можна ў гэтым годзе там купацца? Не хацелася б вярнуцца з адпачынку з якой-небудзь хваробай скуры.***

**Арсен Коваль, Мінск.**

Як паведамляюць спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, возера Нарач па-ранейшаму ў зоне праблем – яно заражана цэркарыёзам. Але санслужба не абмяжоўвае ў сувязі з гэтым купанне, таму што цэркарыёз – гэта не інфекцыйнае, а алергічнае захворванне, якое ўзнікае не абавязкова ў кожнага чалавека. Таму з гігіенічнага і эпідэміялагічнага пунктаў гледжання гэта не прычына, каб абмяжоўваць сябе ў адпачынку.

Адкуль узяўся цэркарыёз у Нарачы? Яго пераносяць вадаплаўныя птушкі, адным з пераносчыкаў з'яўляюцца малюскі. Гэта значыць, пакуль на Нарачы будуць жыць качкі, значыць, лічаць навукоўцы, будзе і цэркарыёз.

Захворванне ўяўляе сабой алергічную рэакцыю: на целе чалавека з'яўляецца сып, пухіры, ён адчувае слабасць, галавакружэнне. Праз 7–10 дзён гэтыя сімптомы знікаюць – лічынкі на целе чалавека гінуць.

Пік захворвання на цэркарыёз на Нарачанскіх азёрах прыпаў на лета 2010 года, якое было анамальна гарачым. У той год на добраўпарадкаванне пляжнай зоны, выкошванне расліннасці, у якой размнажаюцца малюскі, ачыстку ад іх вадаёмаў былі затрачаны вялікія намаганні.

Зараз, адзначаюць спецыялісты, захворванне на цэркарыёз у Беларусі памяншаецца – за чэрвень было толькі чатыры выпадкі захворвання. Таму ўрачы рэкамендуюць купацца па некалькі хвілін, уваходзіць у ваду з купальных масткоў, а не на плытκаводдзі. Акрамя таго, пасля выхаду з вады трэба абцерціся ручніком або прыняць душ.

**Кірыл БУБНАЎ.**

РОЗДУМ

# Калі б я быў прэзідэнтам

Калісьці ў савецкія часы ў "Литературной газете" была такая рубрыка – "Калі б я быў дырэктарам". Многія аўтары давалі слушныя рэкамендацыі. Некаторыя з іх былі ўзяты на заметку начальствам, бо калектыўны розум – вялікая сіла. Нездарма ёсць народная прымаўка: адна галава добра, а дзве лепш. Дык, можа, і ў нашай газеце завесці такую старонку і дапамагчы цяперашняму ці будучаму прэзідэнту агульнымі намаганнямі.

Лукашэнка не аднойчы казаў: галоўная задача – эканоміка. Хаця ёсць і другая думка: можа, важней тое, што ў чалавека ў галаве. Маецца на ўвазе нацыянальная ідэя. Але пачнём з эканомікі, а тут важнейшае пытанне – дзе браць грошы? Адказ – выкарыстоўваць знешнія і ўнутраныя інвестыцыі. Скажаце – нічога новага, гаворка пра гэта не адзін раз ішла на пасяджэннях урада? Па тэлевізары мы не раз бачылі карцінку: прэзідэнт патрабуе ад членаў урада знешніх інвестыцый, а гэтыя вялікія начальнікі сядзяць, утуліўшы галовы, і нешта нібыта пішуць. А ўстаў бы адзін з іх і як мага далікатней сказаў бы: "Паважаны Аляксандр Рыгоравіч, вы галоўны тормаз, з-за вас бізнесмены з еўрапейскіх краін не хочуць укладваць свае грошы ў эканоміку Беларусі, з-за вас існуюць санкцыі. Калі вы на самай справе хочаце дабра нашым людзям, дык то сыдзіце са сваёй пасады, і ў краіну пойдуць інвестыцыі і сучасныя тэхналогіі". Дзе акажацца гэты прамоўца, лёгка здагадацца. Можа, нават у тых месцах, дзе пабывала большасць кандыдатаў у прэзідэнты ці нават непаслухмяныя былыя высокія начальнікі Ганчар і Захаранка.

А цяпер разбяромся па сутнасці. Бізнесмены ўкладваюць свае грошы туды, дзе ім выгадна і дзе ёсць гарантыі, дзе дзейнічаюць законы, а не ўказы і воля аднаго чалавека. Дык чым іх зможа зацікавіць наша краіна з новым прэзідэнтам?

Першае – у Беларусі многа высокаадукаваных спецыялістаў. Калі трэба будзе, то яны хутка давучацца да ўзроўню еўрапейскіх тэхналогій. Наша моладзь добра сябе зарэкамендавала на многіх сусветных конкурсах. Амбасадар Ізраіля сказаў, што сярод кіраўнікоў і другіх вядомых людзей яго краіны найбольш выхадцаў з Беларусі. А колькі нашых творчых землякоў з поспехам працуюць у Маскве! Наша краіна мае глыбокія карані адукаванасці і творчых здольнасцяў і заслугоўвае лепшай долі.

Другое – затраты на аплату працы ў нас ніжэйшыя, чым у суседніх заходніх краінах. Значыць, меншы будзе сабекошт выпускаемай прадукцыі.

Трэцяе – выгаднае геаграфічнае размяшчэнне. Добрыя транспартныя зносіны з другімі краінамі.

Чацвёртае – больш танныя энергарэсурсы. Праўда, гэты паказчык не вельмі надзейны, бо залежыць ад стаўлення да нас Расіі. Хаця расійскаму бізнесу таксама выгадна ўкладваць сродкі ў Беларусь па тых жа прычынах. І гэтаму ёсць добрыя прыклады. Фірма "Август" пабудавала ў Мінскай вобласці прадпрыемства па вытворчасці сродкаў аховы раслін і ўжо многа гадоў іх з поспехам прадае ў нашай краіне і суседзям.

А цяпер пра ўнутраныя інвестыцыі. Нашы высокія начальнікі не адзін раз гаварылі, што ў людзей на дэпазітах захоўваюцца мільярды рублёў і валюты. А гэта азначае, што ў нашай краіне не створаны спрыяльныя ўмовы, няма належнай зацікаўленасці ва ўкладванні гэтых грошай у прамысловыя, сельскагаспадарчыя, абслугоўваючыя і другія прадпрыемствы. Чаму грамадзяне Беларусі баяцца ўкладваць свае зберажэнні ў доўгатэрміновыя акцыі? Па той жа прычыне – няма гарантый, адмоўныя адносіны кіраўніцтва да асабістай уласнасці. Пакуль што грошы ўкладваюцца ў гандаль. Там хутка: купіў – прадаў – атрымаў прыбытак. Але ў гэтым у сучасных умовах закладзена вялікая шкода для дзяржавы. Пераважная большасць тавараў купляецца за рубяжом і за валюту. Усе гэтыя дробныя гандляры рынкаў з усіх гарадоў Беларусі за год вывозяць з краіны у Польшчу, Расію мільярды долараў. Прайдзіце па радах такіх рынкаў – амаль усё імпартнае: абутак, вопратка, бытавыя прылады, будаўнічыя матэрыялы, цацкі і г.д. Няўжо мы не можам самі зрабіць якую-небудзь пластмасавую цацку?

Кіраўніцтва краіны, трэба думаць, бачыць такое становішча, але робіць не тыя высновы. Уводзіць розныя абмежаванні для гандляроў. А трэба стварыць умовы для вытворчасці якасных і больш танных тавараў у сваёй краіне. Больш танных таму, што ў нас таннейшыя энергарэсурсы. Высакаякасных таму, што ў нас высокаадукаваныя інжынеры і высокакваліфікаваныя рабочыя. А выраблядь гэтую прадукцыю могуць дробныя і сярэднія прадпрыемствы. Як гэта адбылося ў Польшчы. У інтэрв'ю газеце "Народная Воля" амбасадар Польшчы спадар Шарэпка казаў, што яго краіна дабілася вялікіх поспехаў, стварыўшы ўмовы для росту гэтага сектара эканомікі. Канешне, ім дапамаглі суседзі па Еўрасаюзе.

Адкуль браць грошы на будаўніцтва такіх прадпрыемстваў? Тры асноўныя напрамкі: замежныя інвестыцыі (сумесныя прадпрыемствы), крэдыты, акцыянерныя таварыствы. Пра апошнія хачу сказаць больш падрабязна. Калісьці мы вучылі ў інстытутах па палітэканоміі, што такое *акцыя.* Гэта калі ў чалавека ёсць добрая ідэя ці бізнес-план, але няма дастаткова грошай. Тады ён выпускае і прадае акцыі на патрабуемую суму. Прадавец акцый адкрывае вытворчасць, а пакупнікі акцый атрымліваюць дывідэнды. Так ствараецца рынак каштоўных папер, як гэта існуе ў большасці краін. Чым больш паспяховае прадпрыемства – тым даражэй акцыі. Працаўнікі прадпрыемстваў – самі ўладальнікі часткі акцый, і ў іх уласны інтарэс у паспяховасці сваёй працы.

Такое акцыяніраванне вырашае некалькі праблем. Ствараюцца новыя працоўныя месцы (гэта вельмі важна ў апошні час у сувязі з барацьбой з так званым дармаедствам), выпускаецца патрэбная прадукцыя, не будзе трацiцца валюта на яе закуп за мяжой, грашовыя сродкі людзей будуць працаваць, бюджэт атрымае падаткі. Што для гэтага патрабуецца? Стварыць адпаведныя ўмовы: ільготы па крэдытах і падатках (асабліва на першым этапе), выдзяленне зямлі, адносіны да прадпрымальнікаў як да лепшых людзей краіны, а не чужародных элементаў, і г.д.

Адна з праблем цяперашняй улады – вялікая колькасць стратных прадпрыемстваў. Нават былыя брэнды – трактарны, аўтамабільны, "Гомсельмаш", "Гарызонт" і іншыя – адносяцца да гэтай катэгорыі. Скарачаць іх, а тады куды падзець рабочых? Фінансава падтрымліваць – гэта раскручваць дэвальвацыю. Тое ж самае адносіцца і да стратных сельгаспрадпрыемстваў. Атрымліваецца тупік. Вось чаму ў нас тры абвальныя дэвальвацыі за апошнія чатыры гады. Долар вырас з 2800 да 15.400 рублёў. Пашырэнне і развіццё дробнага і сярэдняга бізнесу дасць людзям працу. Тое, што на рынках усё імпартнае, прадстаўляе вялікую прастору для прадпрымальніцкай дзейнасці. Патрэбна толькі дапамога, і будучы прэзідэнт павінен будзе гэта зрабіць. У нашай краіне знойдуцца таленавітыя палітыкі, эканамісты, якія распрацуюць патрэбную праграму. Такія, як Бальцэровіч у Польшчы, Дэн Сяопін у Кітаі, Гавел у Чэхіі.

Чаму цяперашняя ўлада не дае шырокай прасторы прадпрымальніцкай дзейнасці? Таму што гэта не ўкладваецца ў рамкі сістэмы кіраўніцтва зверху данізу. Прызначаць дырэктараў недзяржаўных прадпрыемстваў вертыкаль не зможа. А гэта вельмі важна. Дырэктар не будзе трымаць пад спудам кантрактаў сваіх рабочых і сам не будзе падпарадкоўвацца раённаму начальству. А там, глядзіш, людзі адчуюць сябе свабоднымі і пачнуць патрабаваць празрыстых і чэсных выбараў.

З эканомікай разабраліся. Чарка і скварка добра, але чалавек тым і адрозніваецца ад жывёлы, што можа думаць. І калі ў гэтых думках прысутнічае нейкая нацыянальная ідэя, нейкая важная мэта, то ён можа на нейкім этапе згадзіцца падцягнуць папругу, будзе ашчадна карыстацца прыроднымі і энергетычнымі рэсурсамі, не наносіць шкоды навакольнаму асяроддзю сваёй краіны. Але такую ідэю ці мэту можа даць толькі такі прэзідэнт, якому ўсе, ці па крайняй меры вялікая большасць, будуць давяраць. Само сабой, выбраны ён будзе на справядлівых выбарах, без датэрміновага галасавання і другіх парушэнняў.

Будучаму прэзідэнту прыйдзецца вырашаць і другія вельмі важныя пытанні. Напрыклад, фактычнае раздзяленне ўлады. Бюджэт павінен зацвярджаць толькі парламент. І ў яго, на маю думку, таксама трэба ўнесці значныя змены. Трэба зменшыць фінансаванне сілавых структур. У нас, паводле дадзеных многіх сродкаў інфармацыі, колькасць міліцыянераў у разліку на тысячу чалавек у разы большая, чым у Польшчы, а парадку там больш. А навошта так многа спецназу, у нас жа самыя мірныя і памяркоўныя людзі? Пры справядлівых выбарах людзі на Плошчу не пойдуць. Ды і выдаткі на армію занадта вялікія. Краіны Еўропы, больш багатыя, маюць колькасць вайскоўцаў значна меншую, чым у нас, і трацяць менш грошай на ўзбраенне. У наш час колькасць танкаў нічога не вырашае. І ад каго нам абараняцца? Заходнія суседзі на нашы землі не прэтэндуюць, а з Расіяй, галоўным пужалам у цяперашні час, у нас цэлы шраг аб'яднанняў, у тым ліку і абаронных.

Атрыманыя за кошт зніжэння ваенных выдаткаў сродкі лепш накіраваць на адукацыю і навуку. Гэта наша перспектыва. Мне вельмі спадабаўся артыкул у "НВ" пад назвай "Новая волна" – пра перадавую моладзь, якая дабілася значных поспехаў у камп'ютарных тэхналогіях, у тым ліку ў гульнявых праграмах. Хлопцы і дзяўчаты зарабляюць добрыя грошы – на ўзроўні Еўропы. Але гэта атрымалася не дзякуючы дапамозе кіраўніцтва краіны, а ў выніку іх асабістых дасягненняў. Калі стварыць на вядучых прадпрыемствах для такой моладзі спрыяльныя ўмовы, у тым ліку і па аплаце працы, то станоўчы вынік будзе абавязкова. Як я пісаў раней, мы не маем прыродных запасаў нафты і мінералаў, але маем высокі інтэлект нашых людзей. Сюды і трэба ўкладваць грошы. А пакуль што ў нас наадварот – дацэнт, навуковы супрацоўнік атрымліваюць 4 мільёны, прафесар – 6, будаўнік – 8–12, футбаліст – 30–100 мільёнаў. Можна пагадзіцца з аплатай будаўнікоў – яны атрымліваюць тое, што зарабілі. А вось на футбалістаў і другіх спартсменаў з прадпрыемстваў бяруць аброк, прымушаюць адлічваць грошы, чым яшчэ больш пагаршаюць іх фінансавае становішча. Прывяду прыклад адмоўных вынікаў гэтакай палітыкі. Наша краіна штогод закупляе хімічныя сродкі аховы раслін, мікраўгнаенні на велізарную суму. Калі б частку гэтых грошай аддаць на распрацоўку і вытворчасць сваіх, айчынных, прэпаратаў, то атрымалі б шматбаковую карысць. Вучоным змаглі б павялічыць зарплату, і іх не пераманьвалі б замежныя фірмы, з'явіліся б новыя працоўныя месцы, валюта засталася б у нашай краіне. Можна было б экспартаваць свае хімічныя вырабы і зарабляць валюту.

У гэтым артыкуле я выклаў свае думкі, меркаванні аб тым, як нам будаваць будучае сваёй краіны. Магчыма, у нечым памыляюся. Я не валодаю дастатковай інфармацыяй. Але калі сабраць неабыякавых людзей – спецыялістаў у розных галінах вытворчасці – разам, будуць выпрацаваны правільныя напрамкі і рашэнні. Настаў час кардынальнай змены курсу. Пакуль што ў нас, як сказала адна журналістка на нядаўняй сустрэчы з прэзідэнтам, пры падборы кадраў толькі тасуюць старыя карты. Будучаму прэзідэнту трэба будзе набіраць новую каманду з новым, сучасным разуменнем будаўніцтва краіны пад назвай Беларусь. Вось для чаго ў самадастатковых багатых краінах свету абавязковым з'яўляецца змена прэзідэнта і ўрада пасля 1–2 кадэнцый. Да такога рашэння яны прыйшлі ў выніку шматвекавога вопыту. Можа, і нам пара ісці ў нагу з цывілізаваным светам?

**Іван МЕЛЕХАВЕЦ,**
**жыхар Гродна.**

НАБОЛЕЛО!

## ...А власть все «пыжится»

Удивительный народ живет в центре Европы – миролюбивый, трудолюбивый, покладистый, скромный – безо всякой напускной гордости, добрый по натуре, терпеливый в ущерб себе и так далее и тому подобное. Таким народом легко управлять, и это хорошо усвоила верхушка власти, вешая ему всякую лапшу на уши. Этот народ позволяет власти содержать мощные силовые структуры (против кого?) и огромную армию высокооплачиваемых чиновников (достаточно увидеть их дворцы-коттеджи в Дроздах), реализовывать непомерное увлечение дорогостоящими спортивно-зрелищными мероприятиями и делать прочие неразумные расходы народных денег.

Приведу хотя бы такой пример. Неужели недостаточно огромных помещений Дома правительства и «Красного дома» (бывшего ЦК КПБ) для размещения Совета министров, президента с его администрацией, парламента? Но нет – возведен президентский дворец с помпезным внутренним декором, в планах уже и строительство здания для парламента. Кстати, сооружается новая больница для номенклатуры. Таких примеров можно привести множество.

Парадокс: простой народ все беднеет, а власть все «пыжится». Жаль, что Беларусь за эти 20 лет не стала вровень с другими европейскими народами, хотя страна наша не обделена умными и образованными людьми, которые хорошо разбираются в особенностях современного экономического уклада жизни, но легко догадаться, почему они не во власти.

**З.МАКЕЕНКО.**

*Минск.*

ПОГЛЯД

## ...Таму што хварэюць на бездухоўнасць

Два артыкулы – "Рукатворныя беды Нарачы" Вячаслава Лапціка і "Мост памяти и любви... Или же мусоросборник?" Міхаіла Патапава – у пэўным сэнсе сугучныя. У адным і ў другім выпадку гаворка ідзе аб экалагічным становішчы, аб культуры паводзін беларусаў.

Бяда толькі ў тым, што аўтары не раскрываюць прычын такога бескультур'я, а абмяжоўваюцца канстатацыяй фактаў, якія прыводзяць да экалагічнага забруджвання тэрыторыі. Аўтарам, лічу, спачатку трэба было б паставіць пытанне, чаму многія з нас, беларусаў, такія бескультурныя? Ці не таму, што хварэюць на бездухоўнасць? Такіх людзей нельга назваць грамадзянамі. Яны – насельнікі, манкурты.

Народ, які належыць да адпаведнай нацыянальнасці, мае сваю мову, узбагачае сваю нацыянальную культуру, шануе сваю гістарычную памяць. Народ, які масава выракся роднай мовы, згубіў нацыянальную культуру, грэбуе сваёй гістарычнай памяццю. Такі народ страчвае сябе і робіцца манкуртам.

Пакуль усе беларусы не ўсвядомяць сябе нацыяй – са сваёй мовай, культурай, шматвяковай гісторыяй і адметным светапоглядам, мы не будзем нармальна развівацца, нас не будуць паважаць у цывілізаваным свеце.

Асабіста я, свядомы беларус, нават смалячок ад сваёй цыгаркі нясу ў бліжэйшую смеціцу: вакол жа – мая зямля.

Для мяне мая Бацькаўшчына і ўсё, што звязана з ёю – святое. Я ганаруся тым, што мяне не абманкурціла ніякая варожая сіла. І такога хацелася б пажадаць сучасным і будучым аўтарам "Народнай Волі". Каб яны не канстатавалі факты, а выяўлялі прычыны, якія вынішчаюць у чалавеку чалавечнасць.

**Мікола КАНАХОВІЧ.**

*г.Пружаны.*

З НАГОДЫ

## Не ідзе

***Калі былы лідар сацыял-дэмакратаў Анатоль Ляўковіч стаў друкаваць свае артыкулы ў "Народнай Волі", я, шчыра кажучы, падумаў, што ён гатовы стаць спарынг-партнёрам Аляксандра Лукашэнкі на выбарах. Так бы мовіць, рыхтуецца. Але зараз бачу, што ягонае прозвішча ў сувязі з выбарамі не гучыць. Няўжо я памыліўся ў Ляўковічу?!***

**Міхаіл БРАЗОЎСКІ, г.Маладзечна.**

Анатоль Ляўковіч на выбары сапраўды не ідзе, ініцыятыўную групу не фарміруе і ўвогуле называе кампанію-2015 «скоморошничеством». Палітык упэўнены, што справа ідзе "да паўтору мінулых выбарчых кампаній і памылак".

– Я не рэгіструю ініцыятыўную групу, каб у мітусні, клаўнадзе не зацерці вельмі важныя для краіны мэты – кансалідацыю беларускай нацыі і Беларусі, – патлумачыў палітык. – Нельга пэцкаць святое. Мы гаворым пра краіну, яе інтарэсы, яе перспектывы, яе лепшую будучыню. І я пайду ў гэтую клаўнаду, каб скакаць адзін перад адным?.. Нельга разменьваць святое і прынцыповае. Гаворка ж не пра тое, што Лукашэнка выйграе выбары. Але хіба Таццяна Караткевіч выйграе?..

ВЕРИТЬ – НЕ ВЕРИТЬ

## Почему нельзя убивать змей?

Хотите – верьте, хотите – нет, но лично я в народные приметы верю. И у многих народов существует поверье, что убийцу змеи постигнут великие муки, а его семья погрязнет в бедноте и несчастьях. Слышала я об этом с самого детства, от бабушки, но только уже будучи взрослой стала интересоваться, откуда появилось такое поверье.

На Буковине (Украина) всегда считали, что змеи приносят добро и удачу в дом, а уж если такую змейку вы встретили на своей территории, она сразу становится домовой. И убивать ее, естественно, нельзя.

Запрет на убийство домовой змеи связан с древним поверьем, согласно которому во многих змеях живут души наших предков. У поляков и вовсе существует легенда, что у каждого из ныне живущих людей есть своя змея-двойник и, убивая пресмыкающееся, вы тем самым убиваете чью-то душу (возможно, даже свою).

По мнению литовцев, змеи живут в каждом доме. Их число равно числу жителей, проживающих на данной территории. Ночью, когда все спят, змеи выползают из своих укромных нор и обвивают спящего человека. Своим дыханием они дарят ему бодрость, силу и здоровье.

В архивах Эстонского музея литературы хранится порядка 100 поверий, в которых говорится о том, что каждая змея – это дух дома, причем добрый...

И вот я думаю: все-таки не дураки же были люди, если в стольких регионах пришли к одному и тому же выводу.

**В.Н.ТИМОШЕВИЧ.**

*Гродно.*

РЭПЛІКА

## Што назваць дранікам?

Аляксандр Лукашэнка сваім указам забараніў выкарыстанне слова "Беларусь" у назвах недзяржаўных арганізацый. Можна спрачацца наконт мэтазгоднасці такога рашэння, але, на мой погляд, абавязкова трэба стварыць нейкую камісію, якая дазваляла б беларускім таварам прэзентаваць сябе ў якасці нацыянальных брэндаў.

Раскажу, як сам сутыкнуўся з такой праблемай.

Купіў я днямі прыгожую упакоўку з надпісам "Беларускія дранікі". Адкрыў, а там нейкія незразумелыя замарожаныя лепякі. Да дранікаў яны ўвогуле не маюць аніякага дачынення – ні па знешнім выглядзе, ні па смаку. І давялося мне гэтую страву проста выкінуць. Але ж нехта з гасцей нашай краіны так і будзе думаць, што гэта незразумелая шэрая мешанка і ёсць беларускія дранікі. Нельга так!

**Пётр ШАЎЦОЎ.**

*Мінск.*



Народная Воля http://www.nv-online.info 17 ЛІПЕНЯ 2015 г.

ЧУЛІ?

## Мільярды еўра ад ЕС

У 2014–2020 гадах Польшча павінна выкарыстаць 82,5 млрд еўра са сродкаў Еўрасаюза. Гэта больш, чым было ў 2007–2013 гады, калі сума датацый складала 68 млрд еўра.

У ІХ

## Прэм'еру Румыніі прад'явілі афіцыйныя абвінавачанні

Прэм'ер-міністр Румыніі Віктар Понта, які падазраецца ў адмыванні грашовых сродкаў, фальсіфікацыі дакументаў і ўхіленні ад выплаты падаткаў, заявіў аб адстаўцы з пасады лідара Сацыял-дэмакратычнай партыі на час расследавання.

Інфармацыя аб прад'яўленых прэм'еру абвінавачаннях паступіла пасля таго, як яго дапыталі супрацоўнікі антыкарупцыйнага ўпраўлення.

Інкрымінуемыя Понце абвінавачанні адносяцца да перыяду 2007–2011 гадоў – да таго, як ён узначаліў урад у 2012 годзе.

Некаторыя крыніцы таксама паведамляюць аб канфіскацыі часткі ўласнасці Понты, якая можа быць выкарыстана для кампенсацыі меркаванай шкоды, нанесенай палітыкам дзяржаве.

ТРАГЕДЫІ

## Індыя: 27 чалавек загінулі ў цісканіне

*І больш за 30 паранена.*

Трагедыя адбылася падчас 12-дзённага рэлігійнага свята, у рамках якога праходзяць купанні ў рацэ. Дзясяткі тысяч чалавек хацелі адначасова зайсці ў раку Гадавары, з-за чаго пачалася цісканіна.

Індусы вераць, што купанне ў рацэ дапаможа ім ачысціцца ад грахоў. У выніку памылковага перакanання для многіх з іх найбольш важным з'яўляецца першы дзень фестывалю.

Паліцыя інфармуе, што людзі пачалі таптаць іншых, калі група пілігрымаў спынілася, каб падняць свой абутак на беразе. У выніку пачалася паніка.

Машыны "хуткай дапамогі" мелі ўскладнены доступ да месца здарэння, паколькі дарогі былі перапоўнены людзьмі.

В ЗЕРКАЛЕ ПРЕССЫ





**Глава МИД Ирана Мохамад Джавад Зариф не скрывает своей радости по поводу достигнутых соглашений, а израильский премьер Нетаньяху – своего разочарования.**

# Сделка с Ираном: надежды и страхи

Все британские газеты пишут о ядерной сделке, заключенной шестеркой стран-посредниц с Ираном.

**Financial Times** в своей редакционной статье подчеркивает, что это соглашение стало огромным достижением для дипломатии, несмотря на все его недостатки. При этом США и их союзники должны отдавать себе отчет, в чем заключается слабость договоренности, указывает газета.

В рамках соглашения Иран должен заморозить свою ядерную программу на 10 лет. Это не устраняет опасности того, что Тегеран разработает ядерное оружие, а лишь продлевает время, которое понадобится Ирану, чтобы это сделать, если он того захочет.

Так как наложенные на Иран санкции будут постепенно отменяться, то у страны появятся миллиарды долларов, которые он сможет использовать на расширение своего влияния в регионе. Региональные противники Ирана, такие как Саудовская Аравия, могут в ответ на это приступить к разработке своих собственных ядерных программ.

Но, продолжает газета, учитывая альтернативы – война или дополнительные санкции – этот пакт является наилучшим возможным результатом. В то время как Ближний Восток охвачен глубочайшим кризисом, этот пакт также демонстрирует, что две страны, долгое время враждебно относившиеся друг к другу, могут прийти к соглашению.

Да, договоренность приведет к результатам лишь в том случае, если будут выполнены все ее технические детали. Но не стоит забывать и о политических дивидендах этого соглашения, пишет Financial Times. Наиболее важным остается возможность разрядки между США и Ираном. Никто не ожидает быстрой нормализации отношений. Этому, например, мешает агрессивная политика Ирана на Ближнем Востоке. Тем не менее это соглашение – первый со времен исламской революции 1979 года признак того, что режим в Тегеране готов на конструктивный подход в отношениях с США.

Окончательные выводы по поводу этого соглашения можно будет сделать лишь по истечении определенного времени. Но оно, возможно, предотвратило разрушительное сползание к насилию, пишет Financial Times.

**Sun** в своей редакционной статье пишет, что чуть более 20 лет назад Билл Клинтон назвал исторической договоренность с одним из врагов Запада, так как она, по его словам, не даст этой стране разработать ядерное оружие. Он говорил о Северной Корее.

Эта договоренность не стоила и бумаги, на которой она была написана, и на самом деле только помогла Северной Корее обзавестись ядерным оружием.

Сейчас Барак Обама делает схожие заявления об Иране. Эти параллели вызывают беспокойство, пишет газета. Президент Обама так жаждет записать на свой счет хоть какие-то достижения до истечения срока своего президентства в 2017 году, что он возвращает Иран в лоно международного сообщества, а Великобритания этому поддакивает.

Отмена санкций, ослабление эмбарго на продажу оружия и тот факт, что Иран будут предупреждать заранее о любых инспекциях, означает, что он теперь будет не только опасной, но и богатой страной. Спасибо вам, господин президент, иронизует Sun.

**Американские СМИ** цитируют спикера палаты представителей конгресса республиканца Джона Бейнера, который сказал, что соглашение лишь подбадривает Иран. «Вместо того, чтобы остановить распространение ядерного оружия на Ближнем Востоке, это соглашение, скорее всего, приведет к гонке ядерных вооружений по всему миру», – сказал Бейнер.

**Guardian** в своей редакционной статье пишет, что соглашение с Ираном является триумфом терпеливой дипломатии. В течение 13 лет разногласия между Ираном и Соединенными Штатами, поддерживаемыми их европейскими союзниками, угрожали перерасти в вооруженный конфликт. Но политики не стали прибегать к военной силе, а дипломаты и прагматики в течение бесконечных часов работали над деталями соглашения, которое представляет собой мирный компромисс, а также значительный прогресс в глобальных усилиях по предотвращению распространения ядерного оружия.

Соглашение дает возможность Ирану улучшить свои отношения с Западом. Теперь также появилась вероятность, что Тегеран будет играть другую, более конструктивную, роль на Ближнем Востоке, а также в Афганистане.

Да, президенту Обаме было необходимо значительное достижение на международной арене вдобавок к его достижениям у себя дома, и это соглашение может оказаться таковым.

Но последствия венского соглашения касаются не только того, как история будет рассматривать американского президента.

Эта сделка, на заключение которой понадобилось так много лет, дает основания надеяться, что одна из великих цивилизаций вновь займет свое место в рядах международного сообщества, что принесет огромную пользу не только иранцам, но и их соседям.

Подобную возможность нельзя упускать, пишет Guardian.

**Андрей РУСАКОВИЧ.**



АФИНЫ–БРЮССЕЛЬ

## Рано грекам открывать шампанское

Как уже сообщалось, в Брюсселе главы стран еврозоны заключили соглашение с Грецией о третьей программе помощи. Это произошло после целой ночи переговоров на экстренном саммите глав Евросоюза.

*«Евросаммит единогласно достиг соглашения. Все готово для включения программы механизма Европейского фонда стабильности для Греции при проведении серьезных реформ и для предоставления финансовой поддержки»,* – об этом написал в «Твиттере» председатель Европейского совета **Дональд Туск.**

Представители ЕС отметили, что премьер-министр Греции **Алексис Ципрас** наконец-то принял компромисс, выдвинутый кредиторами во главе с Германией по секвестризации греческих государственных активов, которые следует продать, чтобы погасить долг.

Как отмечает Reuters, греческий лидер также прекратил сопротивление в отношении условий Международного валютного фонда, который предложил 86 миллиардов евро финансовой поддержки. Принятие Афинами этих условий канцлер Германии **Ангела Меркель** назвала необходимыми, чтобы получить поддержку по греческому вопросу в германском парламенте.

Но жесткие условия, предложенные международными кредиторами, могут привести к правительственному кризису в Греции, отставке левого правительства премьер-министра Алексиса Ципраса. Они уже вызвали протесты в Греции. А министр труда Греции **Панос Скурлетис** выступил на государственном телевидении и осудил условия кредиторов. По его словам, условия неприемлемы и, возможно, Греции потребуются новые выборы. Это стало еще одним признаком того, что Ципрасу будет нелегко убедить свою собственную партию СИРИЗА принять условия международных кредиторов.

В то же время, если бы саммит еврозоны ни к чему не привел, Греция сползла бы в экономический провал, отмечает Reuters. Банки по-прежнему закрыты и находятся на грани краха. Существовала перспектива перехода на параллельную валюту и со временем выхода из Европейского валютного союза. Как отмечают руководители Евросоюза, теперь идея выхода Греции из еврозоны больше не рассматривается.

*«Достигнутая договоренность – это хороший результат,* – прокомментировал итоги саммита директор респектабельного Немецкого института экономических исследований Марсель Франшер. – *Намеченная программа для Греции более чем щедрая».* Он, правда, признает, что праздновать успех преждевременно, поскольку пока не ясно, удастся ли восстановить платежеспособность греческого государства, перестроить банковскую систему страны и дать импульс экономическому росту Греции.

Последние события в самой Греции, где нарастает критика своего премьера и достигнутых соглашений, убеждают, что впереди трудные и не совсем ясные времена.

**Сергей ИВАНОВ.**

ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ

### Греция: дебаты в парламенте и столкновения у его стен

Тысячи греков вышли в Афинах на демонстрацию против мер жесткой экономии, предложенных странами еврозоны в обмен на продолжение финансовой помощи. Столкновения демонстрантов с полицией произошли у здания парламента, где решали, соглашаться ли на предложения стран-кредиторов.

Полицейский спецназ был вынужден применить слезоточивый газ, когда из толпы молодежи в него полетели бутылки с зажигательной смесью и камни. По оценкам полиции, на площади Синтагма собралось около 12 с половиной тысяч человек.

Депутаты греческого парламента все же проголосовали за принятие пакета мер жесткой экономии, чего требовали кредиторы в качестве предварительного условия выделения многомиллиардного пакета помощи.

### Восемь украинских военных погибли в Донбассе только за сутки

И еще 16 получили ранения на востоке Украины, сообщил спикер Администрации президента по вопросам спецоперации в Донбассе Андрей Лысенко. В частности, пять военных погибли в Станично-Луганском районе, когда проверяли минные укрепления около украинско-российской границы.

Представитель спецоперации отметил, что интенсивность обстрелов в Донбассе увеличилась. Самая сложная обстановка складывается на Донецком направлении, где, по данным военных, была большая часть обстрелов.

### Нидерландский доклад: «Боинг» сбили донецкие сепаратисты

Пассажирский самолет "Боинг" компании "Малайзийские авиалинии" МН-17 был сбит ракетой, выпущенной с занятой донецкими сепаратистами территории. Об этом говорится в проекте доклада Нидерландского совета по безопасности полетов, оказавшегося в распоряжении телекомпании CNN. Окончательный текст доклада еще не распространен, однако телекомпании удалось выяснить некоторые подробности гибели самолета на востоке Украины 17 июля 2014 года.

Проект доклада занимает несколько сотен страниц. В документе, по сообщению CNN, указаны точный график полета авиалайнера, тип ракеты, которая сбила самолет, а также описана ее траектория. Источник, знакомый с деталями отчета, сообщает: в докладе не только содержатся данные о точке, откуда ракета была выпущена, но и указано, кто именно контролировал территорию, с которой был произведен запуск. "Боинг" сбили пророссийские сепаратисты – к такому выводу, по сведениям CNN, пришли авторы доклада.

### Самоуправляемый автомобиль станет главным прорывом XXI века



В автокатастрофах гибнет более миллиона жителей планеты в год. 90% аварий происходит по вине водителей, а не машин. Управление транспортным средством становится слишком рискованным, чтобы доверять его человеку. На смену приходят автомобили-роботы. Они всегда соблюдают правила дорожного движения, не пьют, не устают и не засыпают за рулем, что сокращает число ДТП в десятки раз.

### На Плутоне есть вода

Если говорить точнее, то на Плутоне обнаружен лед. Об этом говорят первые в истории снимки его поверхности, полученные от аппарата «Новые горизонты». На них ученые рассмотрели сравнительно высокие горы, и при этом – довольно мало ударных кратеров, что говорит о геологической активности небесного тела.

### Джордж Буш-старший упал и сломал шейный позвонок

Бывший президент США Джордж Буш-старший доставлен в больницу, так как сломал шейный позвонок в результате падения, однако его жизни ничего не угрожает, сообщил его пресс-секретарь Джим Макграт. Как сообщает Си-Эн-Эн, Буш упал в среду утром в собственном доме в городе Кеннебанкпорт, штат Мэн, и сейчас проходит лечение в больнице Портленда.

91-летний Джордж Буш-старший, возглавлявший Соединенные Штаты с 1989-го по 1993 год, является участником Второй мировой войны и самым пожилым из четырех ныне живущих президентов США. Он давно передвигается в инвалидном кресле.

### Кельн купил уникальный молитвенник за 270 тысяч евро

Власти Кельна представили общественности роскошно украшенный рукописный молитвенник, изготовленный в этом городе в конце XV века для легендарного кельнского архиепископа Германа IV. Покупка обошлась в 270 тысяч евро. Теперь он

поступит в распоряжение искусствоведов и историков. Сделку со швейцарским антикваром, который предложил его Кельну, совершил городской архив.

У НИХ И У НАС

## «Минималка» в Польше на 71 евро больше, чем средняя зарплата в Беларуси

В Польше планируют увеличить минимальную зарплату на 100 злотых (25 евро) до 450 евро. Для сравнения: в январе 2014 года «минималка» у наших соседей составляла 404 евро, а в январе 2010-го – «всего» 321 евро.

Меньше получают болгары (184 евро), румыны (218), литовцы (300), чехи (332), венгры (333), латыши (360), словаки (380), эстонцы (390), хорваты (396).

Максимальную «минималку» получают в Люксембурге (1923 евро), Нидерландах и Бельгии (1502), Ирландии (1462), Франции (1458), Германии (1473) и Великобритании (1379).

С 1 июля минимальную зарплату на 25 евро повысят и литовцам. После этого наши соседи будут получать от 325 евро. Кроме того, в Литве планируется повысить «минималку» также с января 2016 года еще на 25 евро.

В Эстонии также идет обсуждение увеличения «минималки» со следующего года. Эстонские профсоюзы настаивают на ее росте с нынешних 300 евро до 488, а работодатели – до 417.

В Беларуси с 1 января месячную минимальную зарплату подняли на 258,6 тысячи рублей – до 2,1 миллиона рублей, или 145,23 евро. Сегодня в пересчете по курсу Нацбанка наша «минималка» равна уже 121 евро. После увеличения польская «минималка» будет выше белорусской в 3,7 раза, а литовская – в 2,7 раза. Увеличившись до 450 евро, польская «минималка» превысит среднюю зарплату белорусов на 71 евро.

**(TUT.BY)**

ОФИЦИАЛЬНО

## Сколько нужно иметь при себе денег для посещения Польши?




Посольство Польши в Беларуси выступило с разъяснениями в связи с вопросами, касающимися финансовых средств, которые необходимо иметь иностранному гражданину при въезде на территорию Польши.

*«Документом, регламентирующим наличие денежных средств у иностранных граждан, въезжающих на территорию Республики Польша, является Постановление министра внутренних дел от 23 февраля 2015 г. «О наличии денежных средств у иностранных граждан, въезжающих на территорию Республики Польша, а также документах, подтверждающих возможность получения денежных средств, цель и срок пребывания»,* – отмечают польские дипломаты.

Иностранный гражданин, въезжающий на территорию Республики Польша, должен иметь при себе денежные средства на покрытие расходов во время пребывания в размере 300 злотых, если срок пребывания не превышает 4 дней, и 75 злотых на каждый день пребывания, если срок пребывания превышает 4 дня (или эквивалентную сумму в иностранной валюте).

Документами, подтверждающими возможность получения денежных средств иностранным гражданином, являются:

– дорожный чек;

– справка, подтверждающая сумму доступного лимита по кредитной карте, выданная банком или кредитной организацией, выдавшей кредитную карту;

– справка, подтверждающая наличие денежных средств в банке, сберегательной кассе или кредитной организации, расположенных на территории Республики Польша или другого государства – члена Европейского Союза.

Иностранный гражданин, въезжающий на территорию Польши как участник туристического слета, молодежного лагеря, спортивных соревнований, расходы на пребывание которого в Республике Польша оплачены, иностранный гражданин, направляющийся в лечебно-санаторное учреждение или являющийся участником программы, предусматривающей трудовую деятельность на территории Республики Польша во время каникул, должен иметь при себе денежные средства на покрытие расходов во время пребывания в размере не менее 20 злотых на каждый день пребывания, а суммарно не менее 100 злотых (или эквивалентную сумму в иностранной валюте).

Документами, подтверждающими цель и срок пребывания, являются:

– документ, подтверждающий участие в туристическом слете, молодежном лагере или спортивных соревнованиях;

– подтверждение покрытия расходов на пребывание в Польше, включая как минимум расходы на проживание и питание;

– направление в лечебно-санаторное учреждение;

– виза, выданная для участия в программе, предусматривающей трудовую деятельность во время каникул, с указанием названия данной программы в графе «Примечания».

Иностранный гражданин, въезжающий на территорию Польши, чтобы начать или продолжать учебу, участвовать в научных исследованиях или обучающих курсах, проводить научно-исследовательские работы, а также начать или продолжать обучение в других формах, должен иметь при себе денежные средства на покрытие расходов во время пребывания в размере не менее 1086 злотых на первые 2 месяца пребывания или эквивалентную сумму в иностранной валюте.

Документом, который может подтвердить цель и срок пребывания иностранного гражданина, является справка о зачислении в учебное заведение или об обучении в учебном заведении, участии в научных исследованиях, обучающих курсах, проведении научно-исследовательской работы, а также начале или продолжении обучения в других формах.

Иностранный гражданин, который возвращается в страну происхождения или проживания или следует транзитом в третьи страны, должен иметь при себе денежные средства в размере, равном стоимости билета, на основании которого он прибыл на территорию Республики Польша, но не менее:

1) 200 злотых, если гражданин прибыл из соседней с Польшей страны;

2) 500 злотых, если гражданин прибыл из государства – члена Европейского Союза, иного, чем предусмотрено в п.1;

3) 2500 злотых, если гражданин прибыл из государства, не являющегося членом Европейского Союза, или эквивалентную сумму в иностранной валюте.

Пересчет имеющихся у иностранного гражданина денежных средств в иностранной валюте в польские злотые будет производиться по среднему курсу данной валюты, установленному Национальным банком Польши в последний рабочий день, предшествующий въезду иностранного гражданина на территорию Польши.

ЭВРИКА!

## Американцы стали первой нацией, «побывавшей» на всех планетах Солнечной системы

В ночь на среду, 15 июля, космический аппарат New Horizons передал на Землю первый сигнал после сближения с Плутоном.

Глава Национального аэрокосмического агентства Чарльз Болден поздравил всех участников миссии New Horizons с успехом, отметив, что американцы стали первой нацией, побывавшей на всех планетах Солнечной системы, завершив тем самым 50-летний период исследований, стартовавший еще при президенте Джоне Кеннеди, говорится в пресс-релизе NASA.

Таким образом Болден неформально вновь повысил статус Плутона, который лишился статуса планеты в 2006 году.

## Мода будущего



Это может быть и браслет, измеряющий пульс и считающий шаги, и кепка со встроенными наушниками. Новый рынок на стыке моды и электроники только начинает формироваться.

Одежды будущего отвечают задачам, поставленным спортивной индустрией («дышащие» ткани, материалы, отводящие влагу и сохраняющие тепло, наушники в капюшоне куртки, майка со встроенным датчиком пульса или GPS), перчатки с адаптивной технологией записи информации...

